Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан

# МАТЭМАТЫКА

Вучэбны дапаможнік для **2** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

## Частка 1

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2012

УДК 51(075.2=161.3)
ББК 22.1я71
М91

Р э ц э н з е н т ы:

дац. кафедры дашкольнай і пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі «Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава», канд. пед. навук, дац. *З. К. Ляўчук*;
метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Пачатковая агульнаадукацыйная школа № 39 г. Мінска» (нам. дырэктара па вучэбнай рабоце *А. Г. Волкава*)

## Умоўныя абазначэнні:

 — новы матэрыял;

 — паўтарэнне вывучанага;

 — дружныя задачы;

 — заданне на кемлівасць;

 — адкажы на пытанне, выканай заданне;

 — выканай дома;



— прачытай у раздзеле «Гэта цікава!»

**ISBN 978-985-559-075-1 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-559-074-4**

# Змест







## Паўтарэнне

**1.** Назаві прапушчаныя лікі.




**2.** Назаві суседзяў лікаў.










3 + 6 = 9

3 — складаемае

6 — складаемае

3 + 6 — сума

9 — сума

**3.** Вылічы. Назаві складаемыя і суму.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 5 + 3 | 5 + 4 | 9 + 1 | 4 + 1 |
| 7 + 2 | 4 + 2 | 6 + 3 | 6 + 2 |

**4.** Дапоўні ўмову і рашы задачу.

У Каці было 3 шары.
Мама купіла яшчэ ... .
Колькі ...?



**5.** Выберы схему і рашы задачу.
Спачатку ад'ехала 7 машын, а потым — 3 машыны. Колькі машын ад'ехала?






**6.** Вось машыны, якія ад'язджаюць са стаянкі:



Якая машына едзе першай? Другой? Трэцяй?
У якім яшчэ парадку могуць ехаць машыны?
Назаві розныя спосабы.

? Назаві лікі, якія ты ведаеш, у парадку павелічэння.



**1.** Вылічы.
4 + 3 7 + 1 1 + 6 2 + 5

**2.** У Ігара 5 марак, у Мікіты столькі ж марак. Колькі ўсяго марак у хлопчыкаў?

1. Назаві фігуры. Задай пытанні са словам «колькі».



2. Назаві лікі. Назаві суседзяў лікаў.







Прачытай запіс 5 + 12 = 17, выкарыстоўваючы словы:

дадаць   плюс   павялічыць   сума

3. Прачытай па-рознаму. Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 3 + 1 | 6 + 1 | 6 + 3 | 4 см + 3 см |
| 7 + 2 | 8 + 2 | 6 + 0 | 2 см + 2 см |

4. Параўнай і рашы задачы.

Вучні спачатку пасадзілі 5 ліп. Праз гадзіну работы ліп стала на 2 больш. Колькі цяпер ліп на школьным двары?

Дзяўчынкі пасадзілі 5 ліп, а хлопчыкі — на 2 ліпы больш. Колькі ліп пасадзілі хлопчыкі?

**5.** Света спачатку намалявала 5 домікаў, а потым яшчэ 3 домікі. Колькі стала домікаў на малюнку ў Светы?

**6.** Света намалявала адзін домік вось так:




Назаві, пад якімі нумарамі знаходзяцца фігуры, з якіх складзены домік.

? Прачытай запіс 6 + 3 = 9 рознымі спосабамі.



**1.** Вылічы.

7 + 3 6 + 4 8 + 0 2 см + 5 см

**2.** Ад стужкі спачатку адрэзалі 10 см, а потым — 4 см. Колькі ўсяго сантыметраў стужкі адрэзалі?

**1.** Назаві лікі. Павяліч кожны лік на 1, на 2.









2 + 4 = 6    2 + 4 = 4 + 2    4 + 2 = 6

Ад перастаноўкі складаемых сума не мяняецца.

**2.** Параўнай.

6 + 3 ? 3 + 6    12 + 4 ? 4 + 12
4 + 5 ? 5 + 4    10 + 4 ? 4 + 11
9 + 0 ? 1 + 9    11 + 9 ? 9 + 11

**3.** Запішы прыклады. Вылічы.

| Складаемае | 3 | 2 | 1 | 4 | 5 | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 6 | 0 | 9 | 0 | 1 | 7 |

**4.** Вылічы.

13 дм + 6 дм    17 см + 2 см
12 дм + 3 дм    15 см + 4 см

**5.** Складзі задачу па схеме.



6. У адной шкатулцы было 15 гузікаў, а ў другой — на 5 гузікаў менш. Колькі гузікаў было ў другой шкатулцы?

7. Вось якія гузікі ляжалі ў другой шкатулцы:



Пеця кажа:
— Тут 4 чырвоныя гузікі і 6 зялёных.
Насця кажа:
— Тут 3 вялікія гузікі і 7 маленькіх.
Хто з дзяцей правы? Як яшчэ можна падзяліць гузікі на 2 групы?

? Закончы сказ «Ад перастаноўкі складаемых ...».



1. Вылічы.
2 + 8    12 дм + 8 дм    13 см + 4 см

2. На дыску запісана 4 мультфільмы пра зайца і воўка і 3 мультфільмы пра Віні-Пуха. Колькі ўсяго мультфільмаў на дыску?

## Урок 4

**1.** Назаві лічбы, з дапамогай якіх запісаны лікі.






7 – 5 = 2

7 — памяншаемае

5 — аднімаемае

7 – 5 — рознасць

2 — рознасць

**2.** Вылічы. Назаві памяншаемае, аднімаемае, рознасць.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 10 – 2 | 5 – 2 | 10 – 5 | 9 см – 3 см |
| 4 – 3 | 9 – 4 | 9 – 1 | 7 см – 5 см |

**3.** Складзі пытанне і рашы задачу.
На аэрадроме было 15 самалётаў. Узляцела 3 самалёты.

**4.** Колькі прамых? Колькі крывых? Колькі адрэзкаў?



**5.** Бабуля спякла 10 піражкоў і столькі ж булачак. Колькі піражкоў і булачак разам спякла бабуля?

**6.** Вось булачкі, якія спякла бабуля:



Бабуля хоча раскласці булачкі на 2 талеркі. Дапамажы бабулі. Назаві розныя спосабы.

**7.** У Жэні было 5 палачак. Ён разламаў адну з іх. Колькі палачак стала ў Жэні?

? Назаві памяншаемае, аднімаемае і рознасць у запісе 17 – 3 = 14.



**1.** Вылічы.

7 – 4    6 – 4    8 – 3    6 см – 2 см

**2.** У збане было 10 шклянак вады. Выпілі 8 шклянак. Колькі шклянак вады засталося ў збане?



**1.** Назаві прапушчаныя лікі.

? 11 ? ? 14 ? ? 17 ? 19 ?



Прачытай запіс 19 – 4 = 15, выкарыстоўваючы словы:

адняць мінус паменшыць рознасць

**2.** Прачытай рознымі спосабамі. Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 11 – 1 | 14 – 4 | 17 – 7 | 12 – 2 |
| 14 – 10 | 17 – 10 | 15 – 10 | 12 – 10 |

**3.** Запішы прыклады. Вылічы.

| Памяншаемае | 9 | 8 | 7 | 6 | 5 | 4 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 0 | 1 | 0 | 2 | 0 | 3 |

**4.** Колькі гадзін?






**5.** На каруселі 5 конікаў, 4 жырафы, а вярблюдаў столькі, колькі конікаў і жыраф разам. Колькі вярблюдаў на каруселі?




**6.** Складзі і рашы задачу.

1 дом — 10 паверхаў.
2 дом — ?, на 2 паверхі менш.

**7.** Над кватэрай Пеці 4 паверхі.
Пад яго кватэрай 3 паверхі.
У якім з дамоў жыве Пеця?



**?** Прачытай запіс 15 – 10 = 5 рознымі спосабамі.



**1.** Вылічы.

10 + 3 3 + 10 13 – 3 13 – 10

**2.** Спачатку з галіны ўпала 4 лісцікі, а потым яшчэ столькі ж. Колькі ўсяго лісцікаў упала?

**1.** Назаві лікі ў парадку памяншэння. Паменшы кожны лік на 1.

1 дзяс. 7 адз.  1 дзяс. 8 адз.  1 дзяс. 5 адз.

1 дзяс. 9 адз.  1 дзяс. 6 адз.

**2.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 9 – 2 | 5 – 3 | 8 – 5 | 10 дм – 6 дм |
| 19 – 2 | 15 – 3 | 18 – 5 | 20 см – 6 см |

**3.** Назаві лікі, якія падыходзяць да запісаў.

| | | |
|---|---|---|
| $6 < ?$ | $15 > ?$ | $15 > 10 + ?$ |
| $10 > ?$ | $? < 20$ | $18 - ? < 19$ |

**4.** Выберы задачу, якая рашаецца так:

**10 + 2 = 12**

У кошыку было 10 грыбоў. Узялі 2 грыбы. Колькі грыбоў засталося?

Было 10 кніг, а сшыткаў на 2 больш. Колькі было сшыткаў?

**5.** Маляр 2 гадзіны бяліў столь і 4 гадзіны фарбаваў сцены. Колькі гадзін працаваў маляр?

**6.** Маляр пачаў работу ў 9 гадзін. Які гадзіннік паказвае гэты час? Які гадзіннік паказвае, калі маляр скончыў работу?










**7.** Ад прыстані павінна адплыць 10 лодак. У 3 гадзіны дня адплыло 3 лодкі. Колькі лодак засталося каля прыстані?

**?** Колькі дзясяткаў і колькі адзінак у ліках 10, 15, 19, 20?



**1.** Вылічы.

6 – 6 8 – 4 16 – 6 18 см – 4 см

**2.** Валя расфарбавала 10 см узору сінім колерам і 6 см — жоўтым. Колькі сантыметраў узору расфарбавала Валя?

**1.** Назаві лікі.

| Дзясятак | Адзінкі |
|---|---|
| 1 | ? |

| Дзясятак | Адзінкі |
|---|---|
| ? | ? |

 1 дм = 10 см

**2.** Параўнай.

1 дм ? 10 см　　2 дм ? 1 дм 9 см

2 дм ? 2 см　　1 дм ? 1 дм 3 см

**3.** Вылічы.

10 – 3 + 2　　4 + 2 + 0　　10 + 6 – 5

**4.** Устаў прапушчаныя лікі так, каб запісы былі правільныя.

? + 4 = 6　　4 + ? = 9　　10 – ? = 2

1 + ? = 18　　4 + ? = 15　　? – 10 = 10

**5.** Складзі задачу, для рашэння якой трэба знайсці суму лікаў 10 і 10.

**6.** Вымерай адрэзкі. Складзі прыклады на складанне і адніманне.



**7.** Даўжыня чырвонага адрэзка 8 см, а зялёнага — на 2 см большая. Якая даўжыня зялёнага адрэзка?



**8.** Правер сябе. Вось зялёны адрэзак. Вымерай яго. Выразі яго даўжыню спачатку ў сантыметрах, а потым у дэцыметрах.



Змяні лікі ва ўмове задачы 7 так, каб:
- зялёны адрэзак атрымаўся карацейшым;
- зялёны адрэзак атрымаўся даўжэйшым.

**9.** Які сёння дзень тыдня? Які дзень тыдня быў учора? Пазаўчора? Які дзень тыдня будзе заўтра? Паслязаўтра?

? Колькі сантыметраў у адным дэцыметры?



**1.** Вылічы.

6 – 1 – 3     7 – 1 + 4     7 – 3 + 10

**2.** Трэба пафарбаваць 18 лавак. Маляр пафарбаваў 5 лавак. Колькі лавак яму засталося пафарбаваць?

**1.** Складзі і рашы прыклады.













**2.** Вымерай адрэзкі. Колькі дэцыметраў? Колькі сантыметраў?



**3.** Вылічы.

1 дм + 7 см　　　20 см – 1 дм
2 см + 1 дм　　　2 дм – 10 см

**4.** Колькі гадзін прайшло?







**5.** У аўтобусе ехала 15 чалавек. На прыпынку ўвайшоў яшчэ 1 чалавек. Колькі чалавек стала ў аўтобусе?

**6.** Тата злавіў 10 рыбак, а Вася — на 6 рыбак менш. Колькі рыбак злавіў Вася?

**7.** Тата і Вася лавілі карасёў і акунёў. Тата злавіў карасёў столькі ж, колькі акунёў. Вася злавіў карасёў больш, чым акунёў.



Колькі карасёў і колькі акунёў злавілі тата і Вася?

? Выразі ў сантыметрах: 1 дм 2 см, 2 дм.



**1.** Вылічы.

1 дм + 1 см        3 см + 1 дм
12 см – 1 дм        1 дм – 2 см

**2.** На свята купілі 13 піражных. Пасля свята піражных стала на 10 менш. Колькі піражных стала?

**1.** Растлумач, як складзены запісы.

11 + 4 = 15
15 – 4 = 11
15 – 11 = 4





Калі ад сумы адняць адно складаемае, то атрымаецца другое складаемае.

**2.** Вылічы. Складзі да кожнага прыкладу на складанне па два прыклады на адніманне.

3 + 7 10 + 5 12 + 6 14 + 2

**3.** Дапоўні ўмову. Рашы задачу.

Дзеці пачалі гуляць у футбол у ? гадзіны, а скончылі ў ? гадзіны. Колькі гадзін гулялі дзеці?




**4.** Устаў прапушчаныя лікі так, каб запісы былі правільныя.

8 – ? = 2 ? – 7 = 2 16 – ? = 6
5 + ? = 15 ? + 15 = 19 7 + ? = 17

**5.** Параўнай схемы і рашы задачу.
У заапарку 7 лісіц, 3 львы, а малп столькі, колькі лісіц і львоў разам. Колькі малп у заапарку?







**6.** Якая схема падыходзіць да задачы?
У Косці 6 алоўкаў, а ў Дзімы на 2 алоўкі больш. Колькі алоўкаў у Дзімы?







**7.** Вось алоўкі Косці.
Колькі з іх нечырвоных?
Колькі нядоўгіх?



? Закончы сказ «Калі ад сумы адняць адно складаемае, то ...».



**1.** Параўнай.
14 + 5 ? 11 + 8 17 – 2 ? 7 – 2

**2.** Даўжыня першага адрэзка 5 см, а другога — на 2 см больш. Начарці гэтыя адрэзкі.

**1.** Складзі прыклады з лікам 8 па ўзоры.

3 + 5 = 8
5 + 3 = 8
8 – 3 = 5
8 – 5 = 3

| + | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | | |
| 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | | | |
| 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | | | | |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | | | | | |
| 7 | 8 | 9 | 10 | | | | | | |
| 8 | 9 | 10 | | | | | | | |
| 9 | 10 | | | | | | | | |

**2.** Складзі і рашы прыклады.













**3.** Параўнай.

15 ? 19 — 7 см – 1 см ? 1 дм + 5 дм
19 ? 0 — 15 дм – 4 дм ? 18 см + 2 см

**4.** Было 20 маткоў шэрсці. З 12 маткоў шэрсці звязалі світар, а з 3 маткоў — шалік. Колькі маткоў шэрсці пайшло на світар і шалік разам?

**5.** Міша быў у школе 3 гадзіны, а ў двары гуляў на 1 гадзіну менш. Колькі гадзін Міша гуляў у двары?

**6.** Няхай урокі ў Мішы закончыліся ў 11 гадзін. Які гадзіннік паказвае гэты час? Які гадзіннік паказвае, калі ў Мішы пачыналіся ўрокі?






**7.** Зараз Тані 8 гадоў, а яе сястры Волечцы 1 год. Колькі гадоў будзе Тані і Волечцы, калі Волечка стане на 2 гады старэйшай?

**?** Прачытай рознымі спосабамі: 10 + 5, 15 – 10.



**1.** Вылічы.

12 + 4    16 – 4    16 – 12

**2.** У класе было 11 дзяўчынак, а потым іх стала на 2 больш. Колькі дзяўчынак стала?

# Таблічнае складанне і адпаведныя выпадкі аднімання







7 + 4 = ?




Разважай так:
1. Дадаю столькі, каб атрымаўся дзясятак.
2. Знаходжу, які лік засталося дадаць.
3. Дадаю гэты лік да дзясятка.

**1.** Вылічы і растлумач.

8 + 3




7 + 5




6 + 7




5 + 8



**2.** Устаў прапушчаныя лікі так, каб запісы былі правільныя.

9 + ? + 2 = 12     4 + ? + 5 = 15

7 + ? + 1 = 11     8 + ? + 3 = 13

**3.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 15 – 2 + 6 | 16 – 4 + 2 | 10 – 4 + 3 |
| 14 – 2 + 8 | 19 – 6 + 4 | 16 – 2 + 3 |

**4.** Запішы лікі. Паменшы на 2.

  

**5.** Купілі 10 глыбокіх талерак і 3 мелкія. Колькі ўсяго талерак купілі?

**6.** Света для двух падручнікаў купіла 3 розныя вокладкі: чырвоную, жоўтую, зялёную. Колькімі спосабамі яна можа абгарнуць падручнікі?

**?** Пакажы на схеме, як можна да 5 дадаць 8.



**1.** Вылічы.

8 + 2 + 4     9 + 1 + 5     7 + 3 + 6

**2.** У адным збане 6 шклянак малака, а ў другім — на 4 шклянкі малака больш. Колькі шклянак малака ў другім збане?









12 – 5 = ?




Разважай так:

1. Аднімаю столькі, каб атрымаўся дзясятак.
2. Знаходжу, які лік засталося адняць.
3. Аднімаю гэты лік ад дзясятка.

**1.** Вылічы і растлумач.

13 – 4




12 – 6




11 – 5




**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

16 – 6 – ? = 8

12 – ? – 6 = 4

19 – ? – 9 = 1

15 – 5 – ? = 1

**3.** Параўнай.

11 + 6 ? 11 + 8 12 + 7 ? 11 + 7

17 – 4 ? 18 – 5 19 – 6 ? 10 – 3

**4.** На першай паліцы было 15 кніг. З яе знялі 4 кнігі і пераставілі на другую паліцу. Колькі кніг засталося на першай паліцы?

**5.** Вось усе кнігі, якія зараз стаяць на другой паліцы.




Колькі кніг было на другой паліцы спачатку?
Як можна падзяліць гэтыя кнігі на 2 групы?

**6.** Вымерай адрэзкі. Начарці адрэзак, які даўжэйшы за чырвоны, але карацейшы за сіні.





? Пакажы на схеме, як можна ад 14 адняць 6.



**1.** Вылічы.

16 – 6 – 3 15 – 5 – 4 11 – 1 – 10

**2.** Пасадзілі 12 клёнаў, а дубоў — на 4 менш. Колькі дубоў пасадзілі?



9 + 2 = ?

9 + 1 + 1




11 – 2 = ?

11 – 1 – 1






Растлумач па схеме рашэнне прыкладаў. Запомні.




9 + 2 = 11 | 2 + 9 = 11 | 11 – 2 = 9 | 11 – 9 = 2

**1.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 14 – 4 – 1 | 2 + 8 + 4 | 11 + 4 |
| 19 – 9 – 8 | 7 + 3 + 9 | 16 + 3 |

**2.** Складзі прыклады.












**3.** У Каці 5 цукерак, у Сашы столькі ж, а ў Валі столькі, колькі ў Каці і Сашы разам. Колькі цукерак у Валі?

**4.** Складзі і рашы задачу.








**5.** Вымерай адрэзкі. Знайдзі суму даўжынь гэтых адрэзкаў.



**6.** Сума ўзростаў Каці і Машы 10 гадоў. Колькі гадоў будзе ім разам праз 3 гады? Праз 5 гадоў?

**?** Растлумач вылічэнні: 9 + 2, 2 + 9, 11 – 2, 11 – 9.



**1.** Вылічы.

8 + 2  9 + 2  11 – 1 – 1

**2.** У парку было 10 каруселей і столькі ж арэляў. Колькі ўсяго каруселей і арэляў было ў парку?



8 + 3 = ?

8 + 2 + 1




12 – 3 = ?

12 – 2 – 1






Растлумач рашэнне прыкладаў. Запомні.







| | |
|---|---|
| 8 + 3 = 11 | 9 + 3 = 12 |
| 3 + 8 = 11 | 3 + 9 = 12 |
| 11 – 3 = 8 | 12 – 3 = 9 |
| 11 – 8 = 3 | 12 – 9 = 3 |

**1.** Складзі прыклады. Вылічы.



+ 2

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| ? | ? | ? | ? | ? | ? |
| 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| ? | ? | ? | ? | ? | ? |

– 2

**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

3 + 5 + ? = 10    1 + 6 + ? = 10

18 – 6 – ? = 10    20 – 7 – ? = 10

**3.** У вёсцы ў бабулі 6 курэй, 4 качкі, 3 каты і 2 сабакі. Колькі свойскіх птушак у бабулі? Складзі іншыя пытанні да задачы.

**4.** Раніцай Каця вывучыла 13 англійскіх слоў, а ўвечары забыла 3 словы. Колькі слоў змагла запомніць Каця?

**5.** Каб вывучыць гэтыя забытыя словы, Каця напісала іх на сцікерах. У якім парадку можна раскласці сцікеры?



**6.** Колькі гадзін прайшло?






Растлумач рашэнне прыкладаў: 9 + 3, 11 – 3.



**1.** Вылічы.

8 + 3 11 см – 2 см 12 дм – 3 дм

**2.** На клумбе квітнела 11 лілій, а потым іх стала на 2 менш. Колькі лілій квітнее зараз?



7 + 4 = ?









Растлумач рашэнне прыкладаў. Запомні.










| | | |
|---|---|---|
| 7 + 4 = 11 | 8 + 4 = 12 | 9 + 4 = 13 |
| 4 + 7 = 11 | 4 + 8 = 12 | 4 + 9 = 13 |

**1.** Складзі па два прыклады на складанне па схемах.





**2.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

| | | |
|---|---|---|
| ? + 3 = 12 | ? + 8 = 11 | 11 − ? = 9 |
| 10 = 5 + ? | 10 = 8 + ? | 10 = ? + 3 |

**3.** У Дзімы 12 салдацікаў. Ён падарыў сябру 3 салдацікі. Колькі салдацікаў засталося ў Дзімы?

**4.** У садзе 10 груш. Груш на 4 менш, чым сліў. Колькі ў садзе сліў?

Разважай так:
Груш было на 4 менш, чым сліў.
Значыць, сліў было на 4 больш, чым груш.

Груш — 10, на 4 менш.
Сліў — ?




Груш — 10.
Сліў — ?, на 4 больш.




**5.** У адной бочцы 12 вёдзер вады. Гэта на 3 вядры менш, чым у другой бочцы. Колькі вёдзер вады ў другой бочцы?

? Растлумач рашэнне прыкладаў: 9 + 4, 4 + 8.



**1.** Вылічы.

7 + 4  11 – 8  3 см + 9 см

**2.** У адным слоіку 13 агуркоў. У другім слоіку на 1 агурок менш. Колькі агуркоў у другім слоіку?



11 – 4 = ?









Растлумач рашэнне прыкладаў на адніманне. Запомні.










| | | |
|---|---|---|
| 7 + 4 = 11 | 8 + 4 = 12 | 9 + 4 = 13 |
| 11 – 4 = 7 | 12 – 4 = 8 | 13 – 4 = 9 |
| 11 – 7 = 4 | 12 – 8 = 4 | 13 – 9 = 4 |

**1.** Паменшы кожны лік на 2, на 3, на 4.

10 11 8 13 9 12

**2.** Дапоўні да дзесяці лікі: 4, 3, 8, 1, 5.

**3.** Параўнай.

| | | |
|---|---|---|
| 18 ? 20 | 12 ? 16 | 12 + 3 ? 3 + 12 |
| 18 ? 8 | 10 ? 0 | 11 – 4 ? 11 – 3 |

**4.** Вымерай адрэзак. Начарці такі ж адрэзак. Начарці адрэзак на 4 см карацейшы.

**5.** Прадалі 4 пламбіры і 9 эскімо. Колькі ўсяго порцый марожанага прадалі?
Змяні лікі ў задачы так, каб адказ не змяніўся.

**6.** Саша забіў 4 галы. Гэта на 8 галоў менш, чым забіў Паўлік. Колькі галоў забіў Паўлік?

**7.** Саша кажа Паўліку:
— Заўтра я заб'ю столькі галоў, колькі ты сёння, ды яшчэ палову таго, што я забіў сёння. Усяго ў мяне будзе 20 галоў.
Ці не памыліўся Саша ў падліках?



**?** Растлумач рашэнне прыкладаў: 13 – 4, 13 – 9.



**1.** Вылічы.
12 – 3 8 + 4 9 + 3 – 0

**2.** Для салата ўзялі 9 памідораў. Гэта на 3 менш, чым перцаў. Колькі перцаў узялі для салата?

**1.** Складзі і рашы прыклады.



**2.** Вылічы.

12 паменшы на 3
11 паменшы на 7
13 паменшы на 9
9 павяліч на 4
8 павяліч на 3
4 павяліч на 7

**3.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

4 + 8 + ? = 15
7 + ? + 8 = 18
9 + 3 − ? = 10
17 – 7 – ? = 7

**4.** Складзі і рашы задачы.

Было — 13 ... .
Паляцела — 9 ... .
Засталося — ?

Было — 4 ... .
Прыляцела — 9 ... .
Стала — ?

**5.** Начарці адрэзак, роўны суме даўжынь чырвонага, жоўтага і зялёнага адрэзкаў.





6. Поезд едзе з Мінска ў Баранавічы 2 гадзіны. Гэта на 3 гадзіны менш, чым ён едзе з Мінска ў Брэст. Колькі гадзін едзе поезд з Мінска ў Брэст?

7. Няхай поезд выехаў з Мінска ў 6 гадзін раніцы. А якой гадзіне поезд прыедзе ў Баранавічы? У Брэст? На якіх гадзінніках паказаны час адпраўлення і час прыбыцця поезда?










8. Складзі розныя задачы, для рашэння якіх трэба знайсці рознасць лікаў 14 і 4.



1. Вылічы.

9 + 4 12 дм – 8 дм 3 см + 9 см

2. У першым поездзе 7 вагонаў, у другім — 4 вагоны, а ў трэцім — столькі, колькі ў першым і другім разам. Колькі вагонаў у трэцім поездзе?



9 + 5 = ?







5 + 9 = ?






Растлумач рашэнне прыкладаў. Запомні.




| | |
|---|---|
| 6 + 5 = 11 | 5 + 6 = 11 |
| 7 + 5 = 12 | 5 + 7 = 12 |
| 8 + 5 = 13 | 5 + 8 = 13 |
| 9 + 5 = 14 | 5 + 9 = 14 |

**1.** Складзі і рашы прыклады.




**2.** Параўнай.

2 см ? 8 см

2 см ? 2 дм

6 см – 5 см ? 10 см – 1 дм

13 см – 5 см ? 11 см – 3 см

**3.** У Васі 3 браты і 2 сястры. Колькі ўсяго хлопчыкаў у сям’і?

**4.** Каця намалявала 10 флажкоў. Потым яна вы́разала ўсе гэтыя флажкі. Колькі флажкоў Каці засталося выразаць?

**5.** Выберы схему. Рашы задачу.
У буфеце 15 кубкаў, а сподкаў на 4 больш. Колькі сподкаў у буфеце?







**6.** Пеця сфатаграфаваў дом. Пад якім нумарам можа быць фатаграфія гэтага дома?




**?** Растлумач вылічэнні: 8 + 5, 5 + 8.



**1.** Вылічы.
13 – 4 5 + 9 4 + 7 – 0

**2.** Сабралі 9 мяхоў бульбы і 3 мяхі морквы. Колькі ўсяго мяхоў гародніны сабралі?



14 – 5 = ?









Растлумач рашэнне прыкладаў на адніманне.

Запомні.




| | | |
|---|---|---|
| 6 + 5 = 11 | 11 – 5 = 6 | 11 – 6 = 5 |
| 7 + 5 = 12 | 12 – 5 = 7 | 12 – 7 = 5 |
| 8 + 5 = 13 | 13 – 5 = 8 | 13 – 8 = 5 |
| 9 + 5 = 14 | 14 – 5 = 9 | 14 – 9 = 5 |

**1.** Складзі і рашы прыклады.







**2.** Адно са складаемых павялічылі на 1. Як трэба змяніць другое складаемае, каб сума не змянілася? Павялічылася на 3?

**3.** Дапоўні ўмову і пытанне. Рашы задачу.
Купілі 8 дм сіняй тасьмы. Жоўтай тасьмы купілі … . Колькі …?

**4.** У класе 12 хлопчыкаў. Хлопчыкаў на 2 больш, чым дзяўчынак. Колькі ў класе дзяўчынак?

Разважай так:
Хлопчыкаў на 2 больш, чым дзяўчынак. Значыць, дзяўчынак на 2 менш, чым хлопчыкаў.

Хлопчыкаў — 12, на 2 больш.
Дзяўчынак — ?




Хлопчыкаў — 12.
Дзяўчынак — ?, на 2 менш.




**5.** У адным доме 14 пад'ездаў. Гэта на 4 пад'езды больш, чым у другім доме. Колькі пад'ездаў у другім доме?



Растлумач рашэнне прыкладаў: 14 – 5, 14 – 9.



**1.** Вылічы.

12 – 5     11 – 5     8 + 3     4 + 9

**2.** Цеплаходу трэба плыць па рацэ 13 дзён. Ён плыве ўжо 10 дзён. Колькі дзён засталося плыць цеплаходу?



8 + 6 = ?







6 + 8 = ?






Растлумач рашэнне прыкладаў. Запомні.

| | |
|---|---|
| 6 + 6 = 12 | |
| 7 + 6 = 13 | 6 + 7 = 13 |
| 8 + 6 = 14 | 6 + 8 = 14 |
| 9 + 6 = 15 | 6 + 9 = 15 |

**1.** Складзі і рашы прыклады.







**2.** Складзі прыклады на складанне і адніманне.

11 5 13 4 14 5

**3.** Колькі гадзін прайшло?



Было



Стала



Было



Стала

**4.** Параўнай і рашы задачы.

У Веры 6 лялек. У Алены столькі ж лялек. Колькі ўсяго лялек у дзяўчынак?

У Алены столькі ж лялек, колькі ў Веры. У Веры 6 лялек. Колькі ўсяго лялек у дзяўчынак?

**5.** Коля скокнуў у даўжыню на 11 дм. Гэта на 3 дм больш, чым скокнуў Валодзя. На колькі дэцыметраў у даўжыню скокнуў Валодзя?

**6.** Каб убачыць, як скакалі хлопчыкі, можна зрабіць схему.




Вымерай адрэзкі. Падумай, што абазначае адрэзак даўжынёй 1 см на гэтай схеме.

? Растлумач рашэнне прыкладаў: 8 + 6, 6 + 8.



**1.** Вылічы.

6 + 9 7 + 6 3 + 9 16 – 3 – 4

**2.** Купілі 7 абаранкаў з макам і 5 абаранкаў без маку. Колькі ўсяго абаранкаў купілі?



15 – 6 = ?

5 1






Растлумач рашэнне прыкладаў на адніманне. Запомні.




| | | |
|---|---|---|
| 6 + 6 = 12 | 12 – 6 = 6 | |
| 7 + 6 = 13 | 13 – 6 = 7 | 13 – 7 = 6 |
| 8 + 6 = 14 | 14 – 6 = 8 | 14 – 8 = 6 |
| 9 + 6 = 15 | 15 – 6 = 9 | 15 – 9 = 6 |

**1.** Складзі і рашы прыклады.







**2.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 4 + 9 | 11 – 6 | 1 дм 1 см – 7 см |
| 9 + 2 | 12 – 3 | 1 дм 3 см – 4 см |

**3.** Які з трох лікаў з'яўляецца сумай двух другіх? Які — рознасцю?

6 13 7    12 8 4    5 9 14    7 4 11

**4.** Параўнай і рашы задачы.

У букеце 15 гваздзікоў. Дадалі яшчэ 2 гваздзíкі. Колькі гваздзікоў стала ў букеце?

У букеце 15 гваздзікоў. Колькі гваздзікоў стала ў букеце, калі дадалі яшчэ 2 гваздзікі?

**5.** Складзі і рашы задачу.

Мама — 13 ... .
Дачка — ?, на 6 ... менш.



**6.** Пеця сфатаграфаваў дом. Пад якім нумарам можа быць фатаграфія гэтага дома?




? Растлумач рашэнне прыкладаў: 14 – 6, 14 – 8.



**1.** Вылічы.

7 + 6 8 + 3 13 – 0 – 6 0 + 6 + 5

**2.** У ліпені дзень можа доўжыцца 17 гадзін. Гэта на 10 гадзін больш, чым ноч. Колькі гадзін можа доўжыцца ноч у ліпені?



Пасадзілі 5 сосен і 3 елкі. На колькі больш пасадзілі сосен, чым елак?



Сосен — 5
Елак — 3
на ? больш




Каб даведацца, на колькі адзін лік большы за другі, трэба ад большага ліку адняць меншы.

**1.** Для кампоту ўзялі 15 яблыкаў і 6 груш. На колькі яблыкаў узялі больш, чым груш?

Яблыкаў — 15
Груш — 6
на ? больш




**2.** Складзі і рашы задачы.

Вася — 9 ... .
Каця — ?, на 5 ... больш.

Вася — 9, на 5 больш ... .
Каця — ?



**3.** Складзі прыклады.

| Памяншаемае | 11 | ? | 13 | 12 | 11 |
|---|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 5 | 4 | 5 | ? | 6 |
| Рознасць | ? | 9 | ? | 9 | ? |

**4.** Параўнай.

4 + 7 ? 12    13 – 4 ? 10    12 – 5 ? 10 – 2
11 – 3 ? 8    13 – 6 ? 8    12 – 3 ? 10 – 2

**5.** Вымерай адрэзкі.



Начарці адрэзак, даўжыня якога роўная суме даўжынь дадзеных адрэзкаў. Выразі ў дэцыметрах і сантыметрах даўжыню гэтага адрэзка.

**6.** Колькі розных сказаў з трох слоў можна скласці?

хутка    будуць    канікулы

? Як даведацца, на колькі лік 10 большы за лік 5?



**1.** Вылічы.

7 + 5    3 + 8    9 + 2    7 + 6 – 1

**2.** У поездзе 15 вагонаў. Колькі вагонаў застанецца ў поездзе, калі ад яго адчэпяць 6 вагонаў?



8 + 7 = ?

2 5




7 + 8 = ?






Растлумач рашэнне прыкладаў. Запомні.

7 + 7 = 14

8 + 7 = 15 7 + 8 = 15

9 + 7 = 16 7 + 9 = 16

**1.** Складзі прыклады.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 4 | ? | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| Складаемае | ? | 7 | ? | 7 | 7 | 7 | ? |
| Сума | 11 | 12 | 13 | ? | ? | ? | 17 |

**2.** Знайдзі прыклады з аднолькавымі адказамі. Складзі запісы па ўзоры.

10 – 3 = 12 – 5

9 + 5 7 + 5 13 – 4

5 + 7 19 – 5 14 – 5

**3.** У адным збане 8 шклянак соку, а ў другім — 5. На колькі больш шклянак соку ў адным збане, чым у другім?

**4.** Віталік і Міша збіралі грыбы. Віталік знайшоў столькі грыбоў, колькі літар у яго імені. Гэта на 6 грыбоў менш, чым знайшоў Міша. Колькі грыбоў знайшоў Міша?

**5.** Дапоўні сказы адзінкамі даўжыні.

Таўшчыня кнігі 2 ... .
Даўжыня алоўка 1 ... .
Шырыня шафы 40 ... .
Вышыня дрэва 30 ... .

Даўжыня дошкі 20 ... .
Таўшчыня дошкі 2 ... .
Рост Пеці 12 ... .
Даўжыня кроку 4 ... .

**6.** Знайдзі заканамернасць і прадоўжы рад.

1, 3, 2, 5, 3, 7, ?, ?, ?, ? .

**?** Растлумач вылічэнні: 8 + 7, 7 + 8.



**1.** Складзі прыклады. Вылічы.

Да 8 дадаць 5

Ад 14 адняць 5

Рознасць лікаў 16 і 5

Складаемыя 6, 8 і 6

**2.** У Дзяніса 13 дыскаў, а ў Сені 6. На колькі больш дыскаў у Дзяніса, чым у Сені?



15 – 7 = ?

5 2






Растлумач рашэнне прыкладаў на адніманне.
Запомні.




| | | |
|---|---|---|
| 7 + 7 = 14 | 14 – 7 = 7 | |
| 8 + 7 = 15 | 15 – 7 = 8 | 15 – 8 = 7 |
| 9 + 7 = 16 | 16 – 7 = 9 | 16 – 9 = 7 |

**1.** Складзі і рашы прыклады.







**2.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 12 – 6 | 13 – 5 + 4 | 11 – 4 + 5 |
| 8 + 5 | 9 + 3 – 4 | 6 + 5 – 5 |

**3.** Параўнай.

1 дм 3 см – 2 см ? 1 дм 9 см – 4 см

1 дм 5 см – 5 см ? 1 дм 8 см – 5 см

1 дм 3 см – 4 см ? 1 дм 2 см – 4 см

**4.** Складзі прыклады.






**5.** Пашылі 8 паліто, 7 куртак, а плашчоў столькі, колькі паліто і куртак разам. Знайдзі колькасць пашытых плашчоў.

**6.** У першым радзе залы 15 крэслаў, а ў другім — на 5 крэслаў больш. Колькі крэслаў у другім радзе залы?



**7.** Ты сядзіш у другім радзе гэтай залы на 10 месцы. Колькі крэслаў злева ад цябе? Справа ад цябе? Правер сябе з дапамогай схемы.

**8.** Падумай, якая літара часцей сустракаецца ў назвах восеньскіх месяцаў. Правер сваё меркаванне.

**?** Растлумач рашэнне прыкладаў: 16 – 7, 16 – 9.



**1.** Вылічы.

16 – 7 15 – 8 14 – 7 6 + 6 + 6

**2.** Іван начарціў адрэзак даўжынёй 5 см. Ён на 6 см карацейшы за даўжыню адрэзка, які трэба начарціць табе. Начарці такі адрэзак.

**1.** Запішы прыклады з адказам 11.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 6 + 7 | 3 + 8 | 8 + 7 | 7 + 9 |
| 5 + 8 | 5 + 6 | 2 + 9 | 6 + 6 |

**2.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 15 – 8 | 11 – 6 | 13 – 4 | 11 – 9 |
| 13 – 6 | 14 – 7 | 16 – 7 | 13 – 8 |

**3.** Параўнай.

| | |
|---|---|
| 12 см ? 1 дм 2 см | 10 адз. ? 1 дзяс. |
| 9 дм ? 1 дм 2 см | 1 адз. ? 1 дзяс. |
| 1 дм ? 1 см | 13 адз. ? 1 дзяс. 6 адз. |

**4.** Дзіма злавіў 13 ракаў, а Віця 8 ракаў. На колькі больш ракаў злавіў Дзіма, чым Віця?

**5.** Складзі задачу па малюнку, якая рашаецца так:

15 – 7 = 8



**6.** Тата і сын 3 гадзіны пілілі дровы. Потым яны 1 гадзіну абедалі і 2 гадзіны касілі траву. Знайдзі час працы таты і сына.

**7.** Няхай тата і сын пачалі працаваць у 10 гадзін раніцы. Які гадзіннік паказвае, калі тата і сын пачалі абедаць?






**8.** Складзі задачу па схеме.






**1.** Запішы прыклады. Вылічы.

| | |
|---|---|
| 13 паменшы на 4 | 9 павяліч на 7 |
| Рознасць 15 і 9 | Сума 8 і 7 |

**2.** Косця вымыў столькі ж кубкаў, колькі вымыла Вольга. А яна вымыла 6 кубкаў. Колькі ўсяго кубкаў вымылі дзеці?



Дапоўні і параўнай задачы.

Было 6 мішак і 4 лялькі.
На колькі больш ...?




Было 6 мішак і 4 лялькі.
На колькі менш ...?




Каб даведацца, на колькі адзін лік меншы за другі, трэба ад большага ліку адняць меншы.

**1.** На возеры 15 качак і 7 лебедзяў. На колькі лебедзяў менш, чым качак?

Качак — 15
Лебедзяў — 7
на ? менш




**2.** Колькі старонак у кнізе, калі Вольга ўжо прачытала 10 старонак і ёй засталося прачытаць столькі ж?

**3.** Назаві суседзяў лікаў. Дапоўні лікі да 20.

12 10 16 18 13 11 14 19

**4.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

10 + ? = 14    ? + 8 = 15    ? – 6 = 9
7 + ? = 14    12 – ? = 8    20 – ? = 12

**5.** Падумай, колькі жоўтых квадратаў можа змясціцца ўнутры чырвонага квадрата; сіняга прамавугольніка. Правер сваё меркаванне.



**6.** Пасадзілі 8 бяроз, 7 клёнаў і 5 дубоў. Растлумач, што абазначаюць запісы:

8 + 7    8 – 7    7 + 5    7 – 5
8 – 5    8 + 5    8 + 7 + 5


Як даведацца, на колькі 7 менш за 11?


**1.** Вылічы.
8 + 4    6 + 6    15 – 7    14 + 0 – 6

**2.** У адным доме 9 паверхаў, а ў другім — на 6 паверхаў больш. Знайдзі колькасць паверхаў у другім доме.



9 + 8 = ?







17 – 8 = ?









Растлумач рашэнне прыкладаў. Запомні.




8 + 8 = 16    16 – 8 = 8

9 + 8 = 17    8 + 9 = 17    17 – 8 = 9    17 – 9 = 8

**1.** Да кожнага прыкладу на складанне складзі па два прыклады на адніманне.

9 + 8    7 + 8    3 + 6

**2.** Сума двух лікаў 16. Адзін лік 8. Знайдзі другі лік.

**3.** Выпішы прыклады з адказам 9.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 18 + 1 | 12 – 6 | 4 + 5 | 8 + 6 – 5 |
| 12 – 3 | 15 – 6 | 14 – 5 | 5 + 6 – 2 |

**4.** Дапоўні і рашы задачу.
На будоўлі адны рабочыя тынкуюць сцены, а другія — беляць столі.

**5.** Складзі пытанне. Рашы задачу.
У першай камп'ютарнай прэзентацыі 11 слайдаў, а ў другой — 4 слайды.

**6.** Вось слайды другой прэзентацыі.













Мікіта хоча пакінуць толькі два слайды. Якія пары слайдаў можна пакінуць? Колькі спосабаў выбару пары слайдаў ёсць у Мікіты?

**?** Растлумач рашэнне прыкладаў: 9 + 8, 17 – 9.



**1.** Вылічы.

17 – 8 15 – 7 + 9 3 + 5 + 8

**2.** Паша на экскурсіі зрабіў 14 здымкаў. Гэта на 6 здымкаў менш, чым зрабіла Маша. Колькі здымкаў зрабіла Маша?



9 + 9 = ?







18 – 9 = ?









Растлумач рашэнне прыкладаў.
Запомні.




9 + 9 = 18 18 – 9 = 9

**1.** Вылічы.

9 + 9 – 5
6 + 6 – 4
18 – 4 – 7

5 см + 8 см – 9 см
6 дм + 7 дм – 8 дм
1 дм 9 см + 1 см – 10 см

**2.** Параўнай.

11 – 7 ? 12 – 8
16 – 9 ? 12 – 5
18 – 9 ? 15 – 6

8 + 7 ? 9 + 4
4 + 9 ? 7 + 7
6 + 8 ? 3 + 9

**3.** Прадстаў лікі ў выглядзе сумы двух аднолькавых складаемых.

8 = ? + ?
10 = ? + ?

12 = ? + ?
14 = ? + ?

16 = ? + ?
18 = ? + ?

**4.** Дапоўні пытанні. Рашы задачу.
У шкатулцы ляжыць 11 шпуль белых нітак і 4 шпулі чорных нітак. На колькі больш ...? На колькі менш ...?

**5.** Выберы схему. Рашы задачу.
Дзіма вышэйшы за Сяргея на 15 см, а Вася вышэйшы за Дзіму на 4 см. На колькі сантыметраў Вася вышэйшы за Сяргея?

| Сяргей | Дзіма | Вася |
|---|---|---|




| Сяргей | Дзіма | Вася |
|---|---|---|




**6.** Разгледзь схему. Стрэлка праведзена ад літары В да літары С. Гэта значыць, што Вася вышэйшы за Сяргея. Растлумач, што абазначаюць іншыя стрэлкі.




? Растлумач рашэнне прыкладаў: 9 + 9, 18 – 9.



**1.** Вылічы.
18 – 9 + 1  17 – 8 + 4  16 – 8 – 8

**2.** У акварыум запусцілі яшчэ 7 рыбак. Пасля гэтага ў ім стала 15 рыбак. Колькі рыбак было?

**1.** Запішы лікі. Колькі адзінак у кожным ліку? Колькі дзясяткаў?

сямнаццаць чатырнаццаць дзевяць

нуль дзесяць тры дваццаць

**2.** Назаві лікі ў парадку памяншэння. Паменшы кожны лік на 1.

1 дзяс. 2 адз. 1 дзяс. 5 адз. 1 дзяс. 8 адз.

1 дзяс. 0 адз. 1 дзяс. 9 адз.

**3.** Складзі прыклады з лікам 13 па ўзоры.

$5 + 8 = 13$
$8 + 5 = 13$
$13 - 5 = 8$
$13 - 8 = 5$

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | 10 | 1 |
| | | | | | | | 10 | 11 | 2 |
| | | | | | | 10 | 11 | 12 | 3 |
| | | | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 4 |
| | | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 5 |
| | | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 6 |
| | | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 7 |
| | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 8 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 9 |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | + |

**4.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 9 + 4 | 8 + 7 | 6 + 5 | 3 + 8 |
| 13 – 8 | 14 – 5 | 16 – 9 | 12 – 7 |

**5.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 7 + 5 – 6 | 6 + 8 – 9 | 4 + 7 – 8 |
| 15 – 7 – 8 | 3 + 9 + 8 | 18 – 9 + 4 |
| 13 – 8 + 7 | 15 – 6 + 2 | 11 – 5 + 9 |

**6.** Растлумач яшчэ адзін спосаб вылічэнняў.

6 + 9 = ?

6 + 10 – 1



16 – 9 = ?

16 – 10 + 1



**7.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 5 + 9 | 8 + 9 | 4 + 8 | 8 + 8 |
| 13 – 9 | 18 – 9 | 17 – 8 | 14 – 8 |

**8.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 9 + 6 + 1 | 7 + 8 + 3 | 12 – 4 – 2 |
| 5 + 7 + 5 | 2 + 5 + 8 | 16 – 7 – 6 |
| 13 – 6 – 3 | 18 – 5 – 8 | 20 – 3 – 10 |

**9.** Параўнай.

19 – 3 ? 14 + 2
13 + 4 ? 20 – 3
11 + 5 ? 12 + 3

17 – 2 ? 11 + 4
15 + 0 ? 12 + 3
18 – 2 ? 13 + 4

**10.** Параўнай.

13 дм ? 13 см
10 см ? 1 дм
15 см ? 1 дм – 5 см

7 см + 3 см ? 1 дм
16 см – 8 см ? 7 см
9 см + 1 см ? 10 дм

**11.** Складзі для кожнага слупка прыклады на складанне з адказам 15.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 15 | ? | ? | 9 | ? | ? | 7 |
| | 6 | ? | ? | 4 | ? | ? |
| | ? | 3 | ? | ? | 1 | ? |

**12.** Складзі прыклады.




**13.** Рашы задачу. Складзі другое пытанне да задачы. На адной пасецы 9 вулляў, а на другой — 8 вулляў. Колькі вулляў на дзвюх пасеках?

**14.** Было 12 тэлевізараў. Колькі тэлевізараў засталося, калі прадалі 4 тэлевізары?

**15.** Якія пытанні падыходзяць да ўмовы задачы?
У клетцы 12 белых і 6 шэрых трусоў.
- Колькі ўсяго трусоў у клетцы?
- Колькі белых і чорных трусоў у клетцы?
- На колькі белых трусоў больш, чым шэрых?
- На колькі шэрых трусоў больш, чым белых?

**16.** Параўнай і рашы задачы.

Каця з бабуляй збіралі грыбы. Каця знайшла 15 грыбоў, а бабуля — на 4 грыбы больш. Колькі грыбоў знайшла бабуля?

Каця з бабуляй збіралі грыбы. Каця знайшла 15 грыбоў. Гэта на 4 грыбы больш, чым знайшла бабуля. Колькі грыбоў знайшла бабуля?

**17.** Складзі і рашы задачы.







**18.** На колькі больш лыжак, чым відэльцаў, паклалі на стол, калі лыжак паклалі 12, а відэльцаў 10?

**19.** Купілі 12 кніг, 5 сшыткаў і 3 альбомы. Растлумач, што абазначаюць запісы:

12 + 5    12 – 5    5 + 3    5 – 3

12 – 3    12 + 3    12 + 5 + 3

**20.** Колькі рыб засталося ў Сяргея, калі ён злавіў 15 карасёў, а кот Васька з’еў 4?

**21.** Параўнай і рашы задачы.

Віка вы́разала 13 флажкоў, а Света — на 4 флажкі менш. Колькі флажкоў выразала Света?

Віка выразала 13 флажкоў. Гэта на 4 флажкі менш, чым выразала Света. Колькі флажкоў выразала Света?

**22.** Складзі пытанне. Рашы задачу.
Віця ў сваім камп’ютары выдаліў 7 файлаў з адной папкі і 9 файлаў з другой папкі.

**23.** Складзі задачы, якія рашаюцца так:

18 – 9 = 9    9 + 9 = 18

**24.** Дзень у верасні можа доўжыцца 13 гадзін, а дзень у студзені — на 5 гадзін менш. Колькі гадзін можа доўжыцца дзень у студзені?

**25.** Даведайся па календары, а якой гадзіне можа пачынацца і заканчвацца дзень у верасні і студзені. Пакажы гэты час на цыферблаце гадзінніка.

**26.** Вымерай адрэзак. Начарці адрэзак, даўжыня якога на 5 см большая. Начарці другі адрэзак, даўжыня якога на 5 см меншая, чым у адрэзка, які ты начарціў.



**27.** На малюнку паказана старая мера даўжыні — пядзя.

Падумай, колькі пядзяў змесціцца ўздоўж кожнага бока парты. Правер сваё меркаванне.



**28.** Тры дзяўчынкі сабралі адзін слоік суніц і яшчэ паўслоіка. Як ім раздзяліць суніцы пароўну? Колькі суніц атрымае кожная дзяўчынка?



У вазе было некалькі груш. Паклалі яшчэ 2 грушы. Стала 7 груш. Колькі груш было ў вазе?



Было — ?
Паклалі — 2 грушы.
Стала — 7 груш.




1. На стале было некалькі сшыткаў. Паклалі яшчэ 5 сшыткаў. На стале стала 20 сшыткаў. Колькі сшыткаў было на стале?

Было — ?
Паклалі — 5 сшыткаў.
Стала — 20 сшыткаў.




2. На колькі больш вёдзер бульбы ў мяху, чым у кашы́, калі ў мяху 6 вёдзер бульбы, а ў кашы́ 2 вядры?

3. Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

| | | |
|---|---|---|
| ? + 5 = 13 | ? + 3 = 11 | ? + 7 = 15 |
| ? + 8 = 12 | ? + 4 = 13 | ? + 6 = 12 |

**4.** Складзі прыклады па ўзоры. Вылічы.

8 + 5 – 6 = 7

| 10 | 9 | 7 | 6 | 8 |
|---|---|---|---|---|
| ? | ? | ? | ? | ? |
| ? | ? | ? | ? | ? |

+ 5

– 6

**5.** Начарці 2 адрэзкі: адзін даўжынёй 1 дм 3 см, другі на 7 см карацейшы.

**6.** Света і Ігар гуляюць у бадмінтон. Спачатку выйграла Света з лікам 13 : 8. Потым выйграў Ігар з лікам 12 : 6. Колькі ўсяго ачкоў набрала Света? Колькі ўсяго ачкоў набраў Ігар?

? Складзі задачу. Растлумач рашэнне задачы.

Было — ?
Прыехала — 4 машыны.
Стала — 11 машын.



**1.** Рашы прыклады з аднімаемым 8.

18 – 8     8 + 7     16 – 8     0 + 8

**2.** Дзяніс знайшоў у парку 15 каштанаў. Гэта на 3 каштаны менш, чым знайшоў Коля. Колькі каштанаў знайшоў Коля?



У кармушцы было 3 сініцы. Прыляцела некалькі соек. Стала 7 птушак. Колькі соек прыляцела?



Было — 3 сініцы.
Прыляцела — ? соек.
Стала — 7 птушак.




**1.** На стале было 6 кубкаў. Мама паставіла яшчэ некалькі кубкаў. Стала 12 кубкаў. Колькі кубкаў мама паставіла на стол?

Было — 6 кубкаў.
Паставілі — ? кубкаў.
Стала — 12 кубкаў.




**2.** Складзі прыклады.

| Памяншаемае | 18 | ? | 14 | 11 | 20 |
|---|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 9 | 4 | 9 | ? | 9 |
| Рознасць | ? | 7 | ? | 2 | ? |

**3.** У класе 20 дзяцей. На перапынак выйшла 7 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. Колькі дзяцей выйшла на перапынак?

**4.** Устаў прапушчаныя знакі дзеянняў + або – , каб запісы былі правільныя.

3 ? 3 ? 1 = 7 6 ? 4 ? 5 = 5 12 ? 2 ? 1 = 9

5 ? 2 ? 2 = 5 1 ? 9 ? 6 = 16 16 ? 3 ? 3 = 10

**5.** Пастаў у сшытку кропкі так, як на малюнку. Правядзі 3 прамыя так, каб на кожнай прамой было па 2 кропкі.



**6.** Дзіма, Саша і Андрэй знайшлі 12 грыбоў. Дзіма і Саша знайшлі 9 грыбоў. Саша і Андрэй — 8 грыбоў. Колькі грыбоў знайшоў кожны хлопчык?

**?** Складзі задачу. Растлумач рашэнне задачы.






**1.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

8 + ? = 10 7 + ? = 16 ? + 8 = 12

**2.** У халадзільніку было 12 яек. Колькі яек засталося пасля таго, як мама ўзяла 5 яек?

